БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за ўсю абвестку 2 рублі.

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя— Востра-Брамская, № 9— адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

Год I. Вільня, Панедзелак 26 мая 1919 г. № 13.

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калііуца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,— нікай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*

**Беларуская Рада**

памяшчаецца на Востра-Брамскай вул. д. № 9.

Старшыня Рады прымае што дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.

Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

✝

За душу С. П. **Тэклі Станішэўскай** адбудзецца заутра 27 мая (ауторак) у 7½ гадз. раньні жалобная імша у касьцеле сьв. Яна, аб чым наказывае *Прэзыдыум Беларускаіа вучыцельскаіа Саюзу.*

# ✝ С. П. ТЭКЛЯ СТАНІШЭЎСКАЯ.

Тэкля Станішэўская радзілася ў 1898 г. У 1914 гаду мы яе застаём сярод сьвядомага беларускага грамадзянства м. Вільні, дзе шчырым патрыатызмам і ахвотнай працай адразу здабыла сабе агульную сымпатыю. Адгэтуль яна ўвесь час актыўна працуе ў беларускім руху.



С. п. Тэкля Станішэўская.

У 1916 г., як сябра Беларускае Музычна-Драматычнае Дружыны, прыймае вельмі жывое ўчасьце ў беларускім тэатры; яна часта гуляе (іграе) на сцэне і асабліва вельмі хараша дэклямуе.

Пастуціўшы ў 1916 г. на Беларускія Вучыцельскія Курсы ў Вільні і скончыўшы іх, едзе за вучыцельку ў Горадзень (Гродну).

Горадзень у той час з беларускага боку быў пустыняю. Сьвядомая беларуская маладзеж з надыходам немцаў была або вывезена, або сама выехала і рассыпалася па ўсходняй Беларусі і Маскоўшчыне. У Горадні бушавала польская чорная сотня, катарая, карыстаючыся з прыходу немцаў, захацела спалянізаваць гэтае спрадвечнае беларускае места і з гэтай мэтаю натужала ўсе свае сілы. Над усім беларускім быў зьдзек. З другога боку праваслаўная царкоўная служба (псаломшчыкі і і інш.), што асталася пасьля выехаўшых у Маскоўшчыну праваслаўных сьвяшчэньнікаў, пры сваім фанатызьме і цемнаце была найвялікшым прыяцелем усяго маскоўскага і непрыяцелем беларускага, што пры тым уплыве на народ, які гэная служба мела падчас нямецкай окупацыі, перадавалася і самому народу. І вось на долю маладой беларускай вучыцелькі-патрыоткі прышлося зламаць першы лёд і няпрыязьнь людзей, каторыя былі пад уплывам чужых нацыянальнасьцей.

Аднак, гарачая, шчырая і сыстэматычная праца Тэклі Станішэўшчынкі робіла сваё. Як запраўды сьвядомая беларуска, яна адносілася аднолькава як да беларусаў праваслаўных, так і да беларусаў каталікоў, і дзеля гэтага будучы сама каталічкай, здабыла агульную сымпатыю і сярод праваслаўнага горадзенскага

номіцкі паход на усход, удача якога пазволіла-б ей хоць-колькі паправіцца ад разгрому на захадзе.

Калі, такім чынам, для Нямеччыны цэнтр вагі новай комбінацыі ляжыць не ў політыцы, а ў экономіцы, то не зусім так маецца справа з пункту гледжаньня інтэрэсаў старонак, што паміж Нямеччынай і Савецкай Расеей. Ужо з наличных дастаных тутака вестак аб паседжаньні нямецкага парлямэнту відаць, што пацяг да расейска-нямецкай згоды зьвязаны ня толькі з гатоўнасьцю вывесьці нямецкія войскі з Ліфляндыі, але і з ахвотай „споўніць усе вымаганьні Расеі". Такая гатоўнасьць, што пярэчыць абавязку, узложанаму на немцаў Антантай, зьдзержываць бальшавіцкі напор на занятыя землі, можа аказацца дужа карыснаю і цікаўнаю з тэрыторыяльнага боку для савецкага ураду, які пры патрэбе хіба што не адмовіцца ад арганізацыйна-тэхнічнай а, можа быць, і матэрыяльна-фінансавай помачы з боку Нямеччыны. На Прыбалтыку і суседнія з ёю старонкі можа наваліцца новая хваля маскоўскага цэнтралізму у яго горшай форме насільнага далучэньня да культурна-матэрыяльнай беднасьці.

Вось палітычныя абставіны, якія змушаюць ізноў моцна шкадаваць, што няма даволі вестак з заграніцы. Туман засьцілае ад нас здарэньні на захадзе, а тым часам з яго цьмы можа стрэліць пярун, грознае рэха якога можа адбіцца і у нашай старонцы.

## Унія і асьцярожнасьць.

Чуткі аб польскіх аннексіяністах і імпэрыялістах далящелі да Парыжа. Абаронцам „незалежнасьці і вольнасьці малых народаў" зрабілася надта прыкра, а польскім дыплёматам і прыкра і сорамна. Яны зразумелі, што справа з „Obszarami (ужо ня Ziemiami) Wschodnemi", далей фэдэрацыйнага хаўруса, alias уніі, ня пойдзе. І сойм заявіў, што Рэспубліка Польская а ні думае прылучаць землі б. Вялікага Княства Літоўскага, што яна кіруецца толькі вызваліць іх с-пад чужаземнага уціску, мець з імі хаўрус на грунце агульных палітычных, экономічных і культурных інтэрэсаў і г. д. Заява гэтая, можа быць, супакоіць Антату, каторая, аджа, папольску не разумеець і ня можа чытаць шовіністычных газэт і каторая можа добра ня ведае, што літоўскаму, беларускаму і украінскаму народу Люблінская унія была згубаю; што дужае сваёю самабытнасьцю і толерантнасьцю Вял. Княства Літоўскае, дзякуючы уніі, было уцягнута ў анархію і упадак польскага гасудларства; што лепшыя, найбагатшыя памесьці яго трапілі, як уласнасьць, у рукі польскай шляхты; што вышэйшыя клясы літоўскага, беларускага і украінскага народа былі апалячаны, так што народныя масы з няймеверным труджаньнем абараняўпыя сваю нацыянальную самабытнасьць, ня маючы сваіх на тое рукаводцаў, былі цёмнымі, безпраўнымі хлопамі, каторых вяльможныя паны лічылі толькі „быдлам". Можа Антанта ні слова ня чула аб страшэннай барацьбе казакоў і гайдамакаў з Рэччу Паспалітаю, аб гэтай страшнай барацьбе, што пачалася блізка 50 гадоў посьля слаўнай Люблінскай Уніі і скончылась тым, што Украіна самахоць паддалася Мяскоўшчыні, пагражаючы — калі ня тое — аддацца пад Турэччыну, бо панаваньне султана ей здавалася лягчэйшым. Антанта, будзем уважаць, дасьць веры, што толькі незначная і неофіцыяльная частка польскага народа кіруецца да імпэрыялістычных мэтаў; дасьць веры, што, да-праўды, аднаўленьне „wielkiej i nieśmiertelnej Unii" дасьць вольнасьць і магчымасьць спакойнага разьвіцьця усім да гэтай пары уціснутым, але ужо блізка паўвека сьвядома кіруючым да нацыянальнага адраджэньня „малым" народам пад абаронаю польскага аружжа, дзеля таго што „na wielkiej równinie od Odry do Dniepra (!) jeden tylko naród całkowicie z obcej przemocy wyzwolony — Polska"... „która ma bronić kultury Europy i życia mas polskich, białoruskich, litewskich na owych ziemiach poza Bugiem". Ну, і нікай Антанта здаволіцца заявою сойма, але мы і ў тэй пышнай заяве чытаем што іншае. Але мы троху чаго ня у кождым артыкулу польскіх газэт (апрача „Dz. Wil.", каторы усе землі б. В. Кн. Літ. шчыра і адкрыта лічыць спрадвечнаю Польшчаю) паміж строк, той й дзіві, чытаем тое самае, што летась, з прыгоды Холмшчыны, безпарестанку пісалі розныя кур'еры кракоўскія, варшаўскія і пазнанскія, а тое: што без Літвы — у самым шырэшым значэньню гэтага слова, уключаючы ў землі б. Вял. Кн. Літ. і Украіну, і Інфлянты, і Беларусь па Смаленска — Польшча ня можа існаваць; што аднэй польскай колёнізацыі, каторую прапануюць некаторыя экономісты, зусім недаволі; што Польшча аж па самае Дняпро і Дзьвіну павінна быць на варце „польшчызны". І колькі там да бажанай новай уніі ня будуць казаць „że nie może być mowy o wynarodorieniu—ani przymusowem—boś związek ma być równych z równymi i wszelkie prawa zastrzeżone — ani dobrowolnem, bo temu stoi na przeszkodzie obudzona samowiedza ludu", — мы занадта добра ведаем, якая гэта роўнасьць: не кажучы ужо аб польскіх панох, варта толькі падзівіцца, як просты тутэйшы паляк, простая польская ці толькі апалячаная прыслуга грэбуе ліцьвінамі ці беларусамі! І сярод тутэйшых адукованых палякоў можна сустрэць людзей, што сьпіраюцца, каб ліцьвіны ці беларусы маглі прэтэндаваць на ймя „народаў". І польскія публіцысты зьнісходзячы заяўляюць, што літоўская і беларуская інтэлігенцыя сьвежае даты, як быццам не разумеюць, што „несьмяртэльная унія" гэтак і нарабіла, што, дзякуючы ей, Польшча зьбірала сьметанку з народаў В. Кн. Літоўскага, адбіраючы у іх інтэлігенцыю, так што лепшыя іх сыны памножылі славу Рэчы Паспалітай. І наагул ва ўсіх іхных артыкулах, паўчаючых і умаўляючых, безстаронны чытаньнік даволі ясна падмецідь зьнісходзячы тон ня роўнага да роўнага, а барджэй—бышага пана да непакорлівага хлопа, якога жадаецца урэзоніць. І калі некаму ужо прыкра і сорамна за блазенскі імпэрыялізм палітычных хвастуноў, дык некаму тансама сорамна будзе за гэты тон. Бо ні тое ні гэта лёгка не забудзецца, а пакуль што навучае асьцярожнасці у роўнасці.

*А. Р.*

## На ўгодкі па М. Багдановічу.

Максім Багдановіч памёр ад сухот у Ялце 12-га мая 1917 года (ст. стыл.), маючы веку 26 гадоў. Радзіўся ён на Беларусі, у Гродзеншчыні, але у малых гадох быў вывезены бацькамі у глыб Маскоўшчыны, дзе і ўзрос. Паслужыў сваім агнявым словам Беларусі 8 гадоў. Працу пачаў вершамі, якія друкаваліся у „Нашай Ніве". Апроч вершаў (выбраныя з іх выданы кніжкаю „Вянок" у Вільні 1913 г.). Багдановіч пісаў прозу, крытычныя стацьці, супрацоўнічаў у рускіх і украінскіх журналах.

Поэзія М. Багдановіча разнаабразная, але уся яна — чыстае мастацтва; характар яе пераважна сумна-прыгожы.

Творы яго дэлікатнай формы. Верш адшліфованы. Разьмеры вершаў усякія да гекзаметраў з пентаметрамі. Есьць у яго сонеты, трыолеты, рондо, октавы, тэрцыны. Іншыя падходзяць да пеяньня, як романсы.

Гэта быў поэт прыражоны і поэт філёзофскага сьветапагляду, дзеля таго яго чытаюць і будуць чытаць ня адны беларусы.

Дагэтуль мы ня маем а ні поўнага жыцьцяпісаньня, а ні поўнага збора твораў, а ні навет фотографіі Багдановіча. Каб ушанаваць яго памяць, нічога ня зроблена, апрача адкрыцьця у Менску народнага дому.

Было б добра, каб усе, хто мае нядрукованыя матэр'ялы Багдановіча, лісты, фотографіі і весткі аб яго жыцьці, прысылалі іх Белар. Выдавец. Т-ву у Вільню, якое мае выдаваць поўны збор твораў поэта.

**М. Г.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

### Літоўска-беларускі фронт.

Польскі Генеральны Штаб паведамляе 22-га мая: „На паўночны ўсход ад Сьвенцян бальшавіцкія атакі на нашы пазыцыі адбіты з цяжкімі стратамі для непрыяцеля; пазатым —бяз зьмены".

### Польска-нямецкія бітвы.

Польскі Штаб паведамляе 22-га мая: „Паўночны фронт". На Куяўскай пазыцыі вялікі агонь нямецкай артылерыі. Адбіта атака нямецкай паўроты на Отокі. У-ноччы жывое дзеяньне патрулёў непрыяцеля.—Заходні фронт. У аколіцы Ежыны пушчаньне мін, пазатым звычайная стрэляніна.—Палуднёвы фронт. Апрача стычак патрулёў — спакой".

### Праект сербска-венгерскай уніі.

У Белград паехала венгерская дэпутацыя, каб злучыць Венгрыю і Юго-Славію пад каронай Александра сербскага.

### Атаман Грыгор'еў і бальшавікі.

„Le Matin" піша, што генерал Грыгор'еў аб'явіўся атаманам Таўрыды і Херсоншчыны і загадаў ня слу-

хаць Леніна і Троцкага, кажучы: „Бальшавікі дэклярavалі вам зямлю і волю, а далі комунізм, анархію і тэрар“. Бальшавікі будуць біцца з Грыгор‘евым і намагацца, каб Адэсу узялі „праўдзівыя бальшавікі“.

**Украіна процiў нялюдзкага гвалту.**

Цэнтральны спаўняючы камітэт рад работніцкіх і селянскіх дэпутатаў войстрапротэстуе процiў версальскай мірнай умовы, якою накладаецца ярмо Антанты на работнікаў і селян Нямеччыны.

Да пратэсту далучылі голас усе соцыялістычныя украінскія партыі.

**Лепей акупацыя, чымсі гэткі мір.**

З розных бакоў даходзяць весткі, што немцы не падпішуць мірнай умовы, бо уважаюць, што лепей акупацыя вайскамі Антанты, чымсі гэтакі мір.

**Расея на конфэрэнцыі.**

Газэта „*Temps*“ піша, што Расею можна-б паклікаць на мірную конфэрэнцыю. Коаліцыя павінна-б прызнаць урад у Омску і адмір. Колчака, які ўжо мае сваіх прадстаўнікаў у Парыжы: Сазонава і Чайкоўскага.

# З Беларусі і Літвы.

**Веска Прыгодзіцы (Верцелішскай вол.).**

Жыхары нашай вёскі, якая маець больш за 90 хат, немаль усе выезджалі у Расею, аставауся толькі адзін гаспадар — абаронца роднай вёскі.

Праўда, большая частка будынкаў уцалела, бо немцы разабралі ня больш 20 хат.

Народ павертаўся без уселякіх срэдстваў да жыцьця, і палажэньне, як усюды, страшэньне цяжкое, напрыклад на усю нашу вёску німа ніводнага каня.

Аднак усёж людзі троху праясьнелі, разумеюць, што памагчы сабе магчыма толькі грамадой. Зараз па засяленьні вёскі выбралі разам з суседняй вёскай Жыдоўшчынай сельскі камітэт, які патроху і працуець.

Сьвяломасьць нацыянальная у нас добрая. Дужа цекавяцца тым, што робіць Цэнтральная Рада, беларускі урад, дый усе так і разумеюць, што тут Беларусь і парадак мусіць быць беларускі Газэту чытаюць ахвотна, толькі рэдка мы яе дастаём.

Дзякуючы стараньням Рады, у вёсцы адчынена беларуская школа; праўда што — і будынак і варункі працы у школі немагчымыя: у школі жывець селянін, што не мае куды дзецца, німа лавак, даскі — словам пуста. Але усёж, ня гледзючы на гэтыя труднасьці, школа працуе. Вучыцца болей за 23 дзяцей з 2 вёсак.

Асабліве пацешна тое, што ходзяць у школу як дзеці праваслаўных так і каталікоў.

„Беларусь“. **А. К—ч.**

**Сяло Капцёўка.**

У нас немцы мелі вялікія баракі, больш як 12, у якіх яны трымалі шмат дабра. Там былі уздэчкі, хамуты, вужы, адзеялы, прадукты і шмат іншых рэчэй. Не маючы магчымасьці усё гэта вывязьці, зьвярнуліся да тутэйшай памешчыцы— купіць усё за чатыры тысячы марак, а калі яна адмовілася, дык прад сваім выходам узялі і падпалілі а самі паставілі навакола стражу, каб усё згарэла і каб часам хто з селян не скарыстаў.

Перэд гэтым прыходзілі нашы з вёсак да немцаў і прасілі іх прадаць патрэбныя рэчы, дык тыя людзей білі прыкладамі і гаварыць не хацелі. Шмат мы мелі тут страху, бо толькі чудам сяло не згарэла разам з баракамі.

Так пажагналіся з намі тыя, што праз больш за чатыры гады зьдзекаваліся і нішчылі нас.

А тым часам знайшліся шкодныя людзі і пусьцілі вестку, быццым беларусы [у нас каталікі называюць гэтак толькі праваслаўных) умовілі немцаў, каб тыя падпалілі сваё дабро на злосьць каталікам. Знайшліся такія, што навет подпісы цад прозьбай зьбіраюць каб калі прыйдуць польскія войскі, дык штоб аб гэтым заявіць.

Ось як яшчэ цёмна у нас!

„Бел.“ **П. Я—кі.**

**Назначэньне старшынь.**

*Турелі.* Паведамляюць, што ў гэтай воласьці старшынь („войтаў“ па новаму) не выбіралі. Кс. дзекан Шэпэцкі сам, бяз ніякіх выбараў, назначыў старшынямі тых, каторыя яму падабаліся.

# У ВІЛЬНІ.

**Новая беларуская газэта у Вільні.**

Незабавам, можа навэт на гэтым тыдню, у Вільні пачне выходзіць новая беларуская газэта, якая будзе друкавацца лацінскімі літэрамі.

**Вывескі і напісы на рагах вуліц.**

„Наш Край“ зьвертае увагу на тое, каб разам з нямецкімі напісамі на рагах вуліц не змазывалі напісаў літоўскіх. Мы ж мусім адзначыць, што роўнасьць вымагае, каб вывескі і напісы былі зроблены усіх тутэйшых мовах. Інакш іх трэба будзе перапісываць яшчэ колькі разоў.

**Манастырскія домы.**

Польская улада надоячы вярнула праваслаўнаму Сьв. Духаву манастыру тры домы, што належалі яму і былі адобраны у часе нямецкай акупацыі.

**Прогрэс.**

З 22-га мая выбіраючым у палявой жандармэрыі перапускі на выезд трэба цадаваць дзьве фатаграфічных картачкі з адціскамі пад імі вялікага палца на правай руцэ.

**Беларуская бібліатэка.**

У „Беларускай Кнігарні“, Завальная № 7 адкрылася беларуская бібліятэка Варункі абонемэнту 1 марка ў месяц і 2 маркі залогу Кнігі выдаюцца ад 8 — 1 і ад 3—6 гадз. што дзень апрача сьвят.

**Па два яйцы —**

на чалавека будуць даваць на гэтым тыдню насяленьню горада.

**Пэнсія**

Пэнсію б. савецкім служачым заплоцяць ў установах, прызнаных польскай ўладаю, толькі за тры дні — 16, 17 і 18 красавіка.

**Безработная прыслуга —**

ёсць у супалцы Сьв. Зіты пры француськім касьцёлі (Трокская, 14).

**Два польскіх банкі —**

прыехалі з Варшавы і мяркуюць ужо на гэтым тыдню меняць грошы.

**Да 10-й гадзіны у-вечары—**

мусяць быць зачынены усе рэстараны і страўні.

**Ніжэюць цэны**

Масла прадаецца па 18 руб., сыр па 10 руб. за хунт, яйцы на 11—12 руб. за дзесятак.

**Гарматная стрэляніна —**

учора надта напалохала жыхараў Вільні, бо загадзя на было ніякага паведамленьня, што артылерысты будуць вучыцца стрэляць.

## Распараджэньне

Генеральнага Цывільнага Камісара Усходніх Зямель.

Каб урэгуляваць валютовыя адносіны на абшарах, падлегаючых Ураду Генеральнага Камісарыята Усходніх Зямель, загадываю вось што:

З дня абвяшчэньня гэтага распараджэньня касы дляржаўных урадаў і грамадзкіх інстытуцый маюць прыймаць і рабіць самі уплаты ў рублях царскіх, рублях думскіх, ост-рублях і ост-марках.

Урадовы курс памянутых валют устанаўліваецца аж да адмены вось які:

100 рублёў царскіх—160 рб. думскіх—100 остмарак—50 ост. рб

100 рублёў думскіх—$62^1/_2$ рб. царскіх—$62^1/_2$ остмарак—$31^1/_4$ ост-рублёў.

100 ост-марак—100 рб. царскім—160 рб. думскіх—50 ост-рублёў.

100 ост-рублёў—200 ост-марак—200 рб. царскіх — 320 рб. думскіх.

Уплаты і выплаты ніжэй за аднаго царскага рубля, ці думскага, або аднэй остмаркі могуць быць роблены у дробных знаках усіх валют, як выпадае па паказанаму вышэй курсу (100 капеек—100 фэнігаў).

У дзень распублікаваньня гэтага распараджэньня, трацяць сілу усякія абавязковыя распараджэньні, рэгулючыя валютовыя справы.

Распараджэньне гэтае не заходзіць на тыя часткі абшараў, падлегаючых Ураду Генеральнага Камісарыягу Усходніх Зямель, каторыя даўней знаходзіліся пад Аўстра-Венгерскай акупацыяй і для каторых будзе асобнае паказаньне.

Генеральны Камісар Усходніх Зямель
ОСМОЛОУСКІ.

## Пісьмо ў рэдакцыю.

*Міласьлівы гаспадар*
*пан Рэдактар!*

У панядзелак, каля $6^1/_2$ г. у-вечары, на Рудніцкай вуліцы я бачыла, як тры чалавекі у вайсковай форме і ўзброеные накінуліся ля варот дома № 23 на трох жыдоў і аббілі іх, потым рынуліся у краму Глезер на рагу Рудніцкай і аббілі яшчэ там людзей. Зрабўся вялікі гвалт на вуліцы, дзе быў ужо міліцыянт, а рады даць ня мог. І ён прасіў мяне, каб я схадзіла у І міл. і перақазала аб усім гр. Парфіяновічў, і што патрэбна помач. Гр Пар-ча я не засьпела і зьвярнулася да дзяжурнага. А той і адказаў мне, што гэта ня іх справа. а каб ісьці да палявэй жандармэры; па тэлефону ж сказаць не пацпусьціў.

**Праходжая.**

Рэдактар і выдавец **У. Знамяроўскі.** Друкарня „Прамень“, Ігнатаўскі, 5.